*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ № 51(159) ◈ 22 снежня 1993 г. ◈ Кошт — 5 рублёў.

## Поступ тыдня

**13 СНЕЖНЯ РЭСПУБЛІКУ УЗБЕКІСТАН З АФІЦЫЙНЫМ ВІЗІТАМ НАВЕДАЎ СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ.** Беларусі ад узбекаў патрэбна бавоўна, а Узбекістану ад беларусаў — харчовыя тавары, грузавыя аўтамабілі, рознае абсталяванне. А кажуць жа некаторыя, што наша нікому не патрэбна і на свеце ёсць толькі адна краіна — Расія, з якой можна гандляваць.

**У НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ БЕЛАРУСІ ПРАЦУЕ ВЫСТАВА ЛІТАРАТУРЫ БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ З ЗША.** Калекцыю з 611 кніг і часопісаў перадаў у дар бібліятэцы дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку доктар Вітаўт Кіпель.

**НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПРЫ ЗАЧЫНЕНЫХ ДЗВЯРАХ АДБЫЛАСЯ «МУЖЧЫНСКАЯ РАЗМОВА».** Яе першы вынік — Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч быў шпіталізаваны з дыягназам гіпертанічны крыз. З Вячаславам Кебічам — усё нармальна. А ўсё пачалося з даклада А. Лукашэнкі, з якім можна пазнаёміцца ў рэспубліканскім друку і прыйсці да цікавых думак.

**ВА ЎЗБРОЕНЫХ СІЛАХ НАШАЙ КРАІНЫ ПАЧАЛАСЯ РАБОТА ПА СТВАРЭННЮ ВАЕННАЙ АКАДЭМІІ.**

**У НАШАЙ КРАІНЕ ПРАВОДЗІЦЦА ПАДРЫХТОЎКА АСПІРАНТАЎ** у 18 навуковых установах, дзе вучыцца больш за 1500 чалавек. У 1992 годзе з 389 чалавек абаранілі дысертацыю толькі 35. Астатнім не хапіла ведаў?

**ЗА 9 МЕСЯЦАЎ 1993 ГОДА ЗНЕШНЕГАНДЛЕВЫ АБАРОТ БЕЛАРУСІ СКЛАЎ 1,1 МІЛЬЯРДА ДОЛАРАЎ ЗША:** экспарт — 539,7 млн. долараў, імпарт — 549,4 млн. долараў. Галоўным нашым гандлёвым партнёрам на Захадзе па-ранейшаму застаецца Германія: 12,8 працэнта ў агульным аб'ёме экспарту і 23,7 працэнта — імпарту. Сярод іншых знешнегандлёвых партнёраў лідзіруюць Польшча, Аўстрыя і ЗША.

# Хто абароніць нашых грамадзян за мяжой?

***У сродках масавай інфармацыі вельмі сціпла паведамлялася пра беды беларускіх механізатараў, якія па прапанове нашага ўрада сёлета працавалі на ўборцы хлеба ў Казахстане. Крыху больш мы пачулі пра гэта з вуснаў некаторых народных дэпутатаў на апошняй сесіі Вярхоўнага Савета: дзесяткі пацярпелых амаль ва ўсіх абласцях Рэспублікі Беларусь. Карэспандэнт «Литературной газеты» на Беларусі Анатоль Казловіч правёў больш шырокае журналісцкае расследаванне гэтай з'явы. Калі ў чытачоў «Нашага слова» маецца дадатковая інфармацыя, просім паведаміць у рэдакцыю.***

◈ ◈

## Беларусы ў бітве за казахстанскі хлеб: пяцёра загінулі, шасцёра ў рускім палоне

У КАЗАХСТАН беларускіх шафёраў і камбайнераў (са сваёй тэхнікай) накіраваў родны ўрад. Па просьбе казахскага ўрада. Дамова была наступнай: вы нам дапаможаце **ўвабраць хлеб, мы дадзім вам** 1 мільён тон збожжа.

Такая самая дамова была і летась. Казахстанскі бок яе **груба парушыў.** Абяцанай колькасці збожжа Беларусь так і не атрымала. Сёлета несур'ёзнае пагадненне абодвух урадаў скончылася трагічна.

Дамоў на Беларусь вярнуліся не ўсе людзі. Трое механізатараў памерлі. Аб прычынах пакуль не паведамляецца. Адзначым, што гэта былі здаровыя, маладыя хлопцы да 35 гадоў. Яшчэ двое загінулі: нібыта няшчасны выпадак. Што на самай справе там адбылося — належыць высветліць беларускай пракуратуры.

Тыя, хто па два-тры месяцы паўкалваў на ўборцы казахстанскага хлеба і вярнуўся жывым, прыехалі дамоў з пустымі кішэнямі. Іх падманулі, не разлічыліся, як гэта было прадугледжана ўрадавымі пагадненнямі. У Казахстане няма расійскіх рублёў — раз. Ураджай аказаўся намнога ніжэйшым, чым чакалі — два. Так што прабачце, браткі-беларусы.

У Кустанайскую вобласць, дзе працаваў асноўны атрад беларускіх механізатараў, выехала група спецыялістаў Мінсельгасхарча рэспублікі. Заступіцца за сваіх, патрэбаваць сумленна зароблenага, у прыватнасці, абяцанага ў якасці натуральнай платы за зерне. Сёе-тое адваявалі.

Шасцёра беларускіх шафёраў загрузілі свае машыны зернем і рушылі ў дарогу — на захад, у Беларусь. Каля горада Жыгулёўска калону спынілі ўзброеныя рабаўнікі і адабралі грошы, каштоўныя рэчы. Ля горада Арла тое ж самае зрабілі супрацоўнікі ДАІ, але ім ужо дасталіся рэштк і.

Да расійска-беларускай мяжы гарапашнікі пад'ехалі без капейкі. Яны ведалі, што Кебіч шырока абвясціў аб зняцці беларускім бокам усіх квот, ліцэнзій і мытняў, а Чарнамырдзін паабяцаў аналагічнае са свайго боку. Але шафёры не паверылі прэм'ерам і вырашылі аб'ехаць расійскую мытню, бо, паўторым, хабар даваць не мелі чым.

Мытня ж аказалася на ўзроўні. У выніку ўпартай пагоні шэсць грузавікоў з зернем былі затрыманы, а вадзіцелі трапілі ў палон. Расійскія мытнікі (горад Навазыбкаў Бранскай вобласці) абвінавацілі парушальнікаў у правозе кантрабанды з усімі, вядома, адпаведнымі вынікамі.

Галодных і халодных, іх трымалі ў палоне сем сутак. Яны вырашылі ўцячы. На сваім грузавіку на радзіму прарваўся толькі адзін. Ён і паведаміў аб тым, што здарылася. Астатнім жа не пашанцавала. На восьмыя суткі адзін з палонных заявіў мытнікам, што ў іх на вачах перарэжа сабе горла, калі не адпусціць дамоў. На шчасце, падаспеў пасланец Беларускага металургічнага завода (яму належалі чатыры грузавікі) і прывёз гарантыйны ліст: дырэкцыя гатова заплаціць любыя грошы, толькі адпусціце няшчасных дахаты. Чатыры грузавікі адпушчаны. Адзін — пад арыштам у якасці залогу. Расійскія мытнікі наклалі арышт таксама на таварна-транспартныя накладныя, даведкі аб натураплаце, выдадзеныя саўгасам «Баскольскі» Кустанайскай вобласці, а разам з імі і вадзіцельскія правы «кантрабандыста» — таго самага, што ўцёк і расказаў пра невядомы дагэтуль «эканамічны саюз» на абсягах СНД.

«ЛГ», 10 лістапада 1993 г.

## Пасябравалі Дзвіна з Рэйнам

*Сустрэчы*

Калі летась па запрашэнні Фонда міру ў наш горад прыехала група немцаў з горада Кайзерслаўтэрн і яго ваколіц, Беларусь для большасці турыстаў з'явілася адкрыццём. За кароткія дні знаёмства мы пастараліся паказаць госцям усё магчымае: пабывалі ў Полацкай Сафіі і ў музеі кнігадрукавання, пазнаёміліся з нашым горадам, фальклорнымі групамі з вёсак, навучылі скакаць беларускую польку. правезлі па мясцінах Асвейскай трагедыі. Былі кастры над Дзвіной і сяброўскія вечары, былі потым яшчэ Хатынь, Менск, Раўбічы, было шчымлівае расставанне.

А сёлета, дзякуючы намаганням нашага Фонда міру і Таварыства евангелістаў з Германіі, мы сустрэліся зноў, на гэты раз на зямлі Рэйнланд-Пфальц. У складзе нашай дэлегацыі былі і сябры ТБМ. На гэты раз мы адкрывалі для сябе Нямеччыну, а нашы гаспадары гасцінна і нават шыкоўна апекавалі нас.

Пад рыцарскімі скляпеннямі і ў сучасных залах гучалі беларуская гаворка і беларускія песні. А потым і немцкія, якія мы перакладалі на родную мову і развучвалі на хаду. У адной з іх спявалася:

*«Дзякуй за шчасце быць сябрамі,*
*Дзякуй за поціск добрых рук,*
*Хай жа над гэтымі гарамі*
*Льецца песень гук!»*

Пастаялі разам ля брацкай магілы савецкіх людзей, якія загінулі тут падчас вайны. На стэле з букетамі гваздзікоў затрапятаўся бел-чырвона-белы сцяжок.

Сярод нашых падарункаў сябрам былі льняныя абрусы і ручнікі, беларуская саломка і ганчарныя вырабы, рэпрадукцыі з карцін М. Савіцкага і кнігі пра Віцебшчыну, вымпел Верхнядзвінскага клуба «Шукальнік» і значок-герб старажытнай Дрысы.

На гэты раз у размовах і дыспутах ніхто ўжо не пытаўся, што гэта за зямля такая — Беларусь. Толькі ў мясцовай газеце ў нататках пра нашыя сустрэчы для недасведчаных у дужках было растлумачана: Вайсрусланд. А сябры казалі: Бэларус. І на развітанне замест звыклага «дазвыданя, спазыба» ўжо гучала: «Дапабачэня!» і «Джякуй!»

А. БУБАЛА.

г. Верхнядзвінск.

Жыццё Таварыства

# У Мастах паміж Таварыствам і аддзелам адукацыі поўнае паразуменне. Але...

Са свайго першага пасяджэння (студзень 1993 года) Мастоўская раённая рада ТБМ імя Ф. Скарыны актывізавала работу па паскораным пераходзе расійскамоўных школ на родную мову. Станам на 1993 год у раёне было 7 школ, дзе з чацвёртага класа выкладанне вучэбных прадметаў ажыццяўлялася на расійскай мове. А гэта азначала, што толькі праз 7—8 гадоў яны падрыхтуюць беларускамоўных выпускнікоў.

Наша суполка выступіла з ініцыятывай: з 1 верасня перавесці ўвесь вучэбны працэс у згаданых школах на беларускую мову. У гэтым мы сустрэлі поўнае паразуменне з аддзелам адукацыі Маскоўскага райвыканкама, які ўзначальвае спадар Ярмак. Былі зроблены заяўкі на беларускамоўныя падручнікі па ўсіх прадметах, што падтрымала і Гарадзенскае аблана. Але рэчаіснасць аказалася больш кансерватыўнай, чым мы спадзяваліся. У выніку расійскамоўныя школы, нягледзячы на ўсе нашы намаганні, атрымалі толькі частку заказаных беларускамоўных падручнікаў і далёка не па ўсіх прадметах. Таму на 1 верасня мы мелі наступныя вынікі. У расійскамоўных школах па-беларуску пачалі выкладацца ва ўсіх школах і ва ўсіх класах Мастоўшчыны гісторыя і геаграфія Беларусі. Што да іншых прадметаў навучальнага цыкла, то іх сталі засвойваць па-беларуску пакуль у некаторых старэйшых класах школ г. Масты. Пазней гэта пашырылася і на іншыя школы раёна.

Такім чынам, становучыя зрухі ўжо відавочныя. Але я ўсё ж лічу, што сітуацыя ў школах далёкая да нармальнай, бо дзецям і настаўнікам вельмі складана і цяжка, калі адзін прадмет выкладаецца па-расійску, другі — па-беларуску, трэці — па-расійску, але падручнікі — беларускія, чацвёрты — па-беларуску, а падручнікі — рускія. Ці трэба ўвогуле ўсё гэта?

Каб адказаць на пытанне, паспрабуем глянуць крыху наперад, да 1 верасня 1994 года, калі на ўсёй Беларусі сённяшнія чацвёртыя беларускамоўныя класы расійскамоўных школ стануць пятымі: гэта значыць, пачнуць вучыцца ў розных настаўнікаў-прадметнікаў. Ужо зараз аддзелы народнай адукацыі думаюць пра тое, як наладзіць перападрыхтоўку прадметнікаў для гэтых класаў.

Што ж мы маем на гэтай дзялянцы ў Мастах? На жаль, сёння — яшчэ моўную вакханалію, але на 1 верасня 1994 года ўжо да паловы прадметнікаў будуць падрыхтаваны выкладаць свае прадметы па-беларуску.

Кропля, як вядома, камяні точыць. Першыя кроплі беларускасці ўжо разбураюць расійскамоўны падмурак народнай адукацыі ў Мастах.

Вельмі цікава, як ідуць аналагічныя працэсы ў іншых кутках Беларусі?

Станіслаў СУДНІК.

г. Масты.



# Прысвечана Ф. Янкоўскаму

*Дзякуючы намаганням Міколы Лінніка, шчырага рупліўца адраджэння, нядаўна аднавіла сваю дзейнасць Радашковіцкая рада ТБМ. Сёння мы друкуем яго першае паведамленне з жыцця гэтай арганізацыі.*

У вянок памяці Фёдару Міхайлавічу Янкоўскаму ўплецена яшчэ адна кветка. На ўвазе маецца вечарына «Ён жыў і працаваў у Радашковічах», якая адбылася 21 лістапада ў тутэйшай гарадской бібліятэцы. Ва ўтульнай чытальнай зале сабраліся і тыя, хто асабіста быў знаёмы з Фёдарам Міхайлавічам, і хто ведае яго па кніжках і працах.

На ўрачыстасць прыехалі і госці з Менска: выкладчыца педагагічнага універсітэта Ніна Гаўрош, рэдактар тэлечасопіса «Роднае слова» Уладзімір Содаль, намеснік старшыні ТБМ імя Ф. Скарыны Зміцер Санько, сакратар ТБМ Васіль Вільтоўскі. Шмат цікавага расказалі госці аб сваіх сустрэчах з Ф. М. Янкоўскім, аб сумеснай працы, аб цікавых жыццёвых выпадках.

Адзначым, што Фёдар Міхайлавіч прысвяціў многа цёплых слоў настаўніцы Ксеніі Рамановскай. Менавіта яе муж, дырэктар Радашковіцкай школы, прымаў на працу ў тыя далёкія пасляваенныя гады настаўніка беларускай мовы Ф. Янкоўскага. Ксенія Рыгораўна ўсхвалявана ўзнавіла ў зале тыя часы, паказала фатакарткі з сямейнага архіва.

Аб вялікім педагагічным таленце Ф. Янкоўскага расказала Алена Кулаковіч, якой пашчасціла вучыцца ў яго класе.

На вечарыне нібыта нябачна прысутнічаў і сам Фёдар Міхайлавіч, партрэт якога па-мастацку выканала настаўніца мясцовай школы Валянціна Беразняцкая.

На «выдатна» ацаніў вечарыну, старанні яе арганізатараў, бібліятэкараў Алы Краўцовай і Наталлі Шастак, сяброў мясцовай суполкі ТБМ пісьменнік Уладзімір Содаль.

Госці з Менска наведалі спадарыню Веру Ніжанкоўскую, жонку Бранiслава Тарашкевіча, перадалі ёй матэрыяльную дапамогу Таварыства і бібліятэчку выданняў Таварыства. Пабывалі яны і ў мясцовай школе мастацтваў, пазнаёміліся з працамі вучняў школы.

Мікола ЛІННІК,
старшыня
Радашковіцкай
рады ТБМ.

## Успомнілі Сапегу і Астрожскага

Днямі на карту Бялыніччаў нанесены назвы дзвюх новых вуліц. Выканкам пасялковага Савета народных дэпутатаў прыняў рашэнне надаць ім імёны Льва Сапегі і Канстанціна Астрожскага.

Залішне, відаць, спыняцца на біяграфічных даных гэтых знакамітых асоб — іх імёны і справы назаўсёды застануцца ў гісторыі Беларусі.

## 3 нагоды юбілею

У сярэдзіне лістапада споўнілася 25 гадоў з дня прысваення тэатру юнага гледача Бялыніцкага раённага Дома культуры ганаровага звання народны. З гэтай нагоды 18, 19 і 20 лістапада ў раённым цэнтры прайшлі святочныя ўрачыстасці. Самадзейныя артысты парадавалі бялынічан і іх гасцей спектаклем «Модны шляхцюк» па аднайменнай камедыі Каруся Каганца (рэжысёр-пастаноўшчык заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь Валянцін Ермаловіч), літаратурна-музычнай кампазіцыяй паводле твораў Максіма Гарэцкага «Скарбы жыцця» (рэжысёр-пастаноўшчык Зінаіда Бялык). Удала ўпісалася ў свята і новая работа бялыніцкіх самадзейных артыстаў — спектакль па трагедыі Алеся Петрашкевіча «Дагарэла свечачка» (рэжысёр-пастаноўшчык Валянцін Ермаловіч).

За сваю гісторыю, якая пачынаецца ў 60-х гадах, артысты Тэатра юнага гледача ажыццявілі пастаноўку 25 спектакляў. Цяпер рэпертуар тэатра зарыентаваны на нацыянальную драматургію.

Бялыніцкія навіны

## «Паходня»— новая газета

У верасні пабачыў свет першы нумар штомесячнай газеты дэмакратычных рухаў Бялыніцкага раёна «Паходня». Друкуецца яна выключна на беларускай мове і выходзіць як дадатак да абласной газеты «Ратуша». Здадзены ў набор ужо трэці нумар.

На старонках новай раённай газеты асаблівая ўвага надаецца асвятленню адраджэнцкіх працэсаў, расказваецца пра багатую гісторыю і культурную спадчыну Бялыніцкага краю, падаецца інфармацыя пра дзейнасць раённага Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Менавіта «Паходня» пазнаёміла бельнічан з раённай праграмай рэалізацыі Закона аб мовах, якая па прапанове раённай рады ТБМ была прынята на чэрвеньскай сесіі райсавета. Дарэчы, афіцыйнае выданне райсавета — газета «Зара над Друццю» дагэтуль праграму яшчэ так і не надрукавала.

Міхась КАРПЕЧАНКА,
старшыня Бялыніцкай
раённай рады ТБМ.

Юбілеі

## Віцебскаму педінстытуту — 75

Віцебскі педагагічны інстытут быў заснаваны восенню 1918 года на базе настаўніцкага інстытута, які пачаў працаваць у горадзе на Дзвіне яшчэ да рэвалюцыі 1917 года.

Сёння гэтая буйная педагагічная ўстанова Прыдзвінскага краю актыўна пераходзіць на выкладанне шэрага прадметаў на беларускай мове. Студэнты пад кіраўніцтвам вопытных выкладчыкаў на семінарах распрацоўваюць тэрміналагічныя слоўнічкі руска-беларускіх тэрмінаў розных навучальных дысцыплін. Нацыянальнае адраджэнне — вось асноўная мэта многіх выкладчыкаў гэтай ВНУ. Свае веды ў галіне духоўнай культуры беларусаў вучоныя перадаюць студэнтам, тым людзям, якія будуць вучыць юных беларусаў у XXI стагоддзі. Актыўная праца па адраджэнні нацыянальных традыцый вядзецца на кафедры рускай і беларускай моў, якую ўзначальвае дацэнт Анатоль Серафімавіч Емяльянаў. З пазіцый сённяшняга дня па выкананні Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь на высокім навукова-прафесійным узроўні праводзіць заняткі па методыцы выкладання беларускай мовы выкладчык Радкевіч Святлана Пятроўна.

Педінстытут мае свой літаратурны музей, у якім захоўваюцца творы з аўтографамі і рукапісы пісьменнікаў — ураджэнцаў Віцебшчыны — Петруся Броўкі, Міхася Лынькова, Еўдакіі Лось. Сярод выпускнікоў інстытута і Пётр Міронавіч Машэраў. А бібліятэка інстытута па колькасці сабранай літаратуры самая багатая ў Віцебскай вобласці.

У добры шлях, Віцебскі педагагічны! Няхай будзе плённай праца мясцовых рупліўцаў па адраджэнні роднай спадчыны.

Канстанцін КАПНЯЛЮК,
аспірант педінстытута.

## У бацькоўскага камітэта свята

У САПРАЎДНАЕ святаператварылася нядаўняя вечарына ў сталічным Доме літаратара, якую праводзіў гарадскі бацькоўскі камітэт беларускамоўных класаў і школ Менска у гонар свайго пяцігоддзя.

У зале ішла зацікаўленая гаворка аб шляхах і праблемах адраджэння роднай мовы. Выступілі народны дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі Ул. Новік, акадэмік АН, рэктар педагагічнага універсітэта Л. Ціханаў, старшыня гарадской Рады ТБМ імя Ф. Скарыны М. Савіцкі і іншыя. Першы старшыня гарадскога бацькоўскага камітэта І. Чарняўскі у прыватнасці, засяродзіў увагу прысутных на тым, што ў нас, на жаль, як і раней, не хапае новых беларускамоўных падручнікаў, мала выдаецца беларускіх часопісаў. Цяперашні старшыня камітэта А. Шамак падкрэсліў, што камітэт пачынаў сваю працу ў горадзе, калі толькі 17 класаў і толькі 240 вучняў вырашылі вывучаць родную мову. А зараз больш за палавіну школ у сталіцы ўжо беларускія. Ён падзяліўся планамі на будучыню, сярод якіх асаблівае месца займае жаданне адкрыць неўзабаве ліцэй міжнародных сувязей і эканомікі.

Ва ўсіх выступленнях гучала думка, што дзяржава пакуль недастаткова падтрымлівае адраджэнне беларускай нацыянальнай культуры і мовы. А Ул. Новік прывёў лічбы, паводле якіх вынікае, што ў складзе Савета Міністраў рэспублікі 80 працэнтаў — не беларусы, таму яны ніколі не будуць спрыяць адраджэнню нацыі.

Гарачымі апладысментамі вітала зала вершы і народныя песні ў выкананні выхаванцаў дзіцячых садкоў № 371 і 376, пяцікласнікаў СШ № 109, а таксама фальклорнага ансамбля Палаца культуры «Юнацтва» пад кіраўніцтвам Н. Сухананавай. У свяце беларускай мовы прыняў удзел і харэаграфічны ансамбль «Чабарок» Палаца моладзі Беларусі.

Дададзім, што фундатарам свята выступіла фірма «Чмель».

Пятро ГАРДЗІЕНКА.

## ЦІ ВЫЙДЗЕ КНІГА ПА-БЕЛАРУСКУ?

У рэдакцыю «Нашага слова» звярнулася група работнікаў прадпрыемстваў, якія эксплуатуюць грузападымальныя краны, і папрасілі дапамагчы ў выданні на беларускай мове кнігі «Правила устройства и безопасной эксплуатации грузоподъемных кранов», якая падрыхтавана да друку ў Дзяржпраматамнаглядзе на рускай мове. У сваю чаргу рэдакцыя «Нашага слова» звярнулася да старшыні Дзяржпраматамнагляду Рэспублікі Беларусь спадара Зуева А. Б. з просьбай станоўча вырашыць гэта пытанне, бо выданне згаданай кнігі па-беларуску пашырыць магчымасць ужывання роднай мовы сярод спецыялістаў прадпрыемстваў і ўстаноў нашай краіны і дапаможа паспяхова вырашаць нашу агульную задачу — выкананне Закона аб мовах.

Якое рашэнне прыме спадар Зуеў?

Н. К.

# Музыку мовы чуе душа

## Гутарка з народнай артысткай Беларусі Марыяй Захарэвіч

**— Спадарыня Марыя, мне неаднойчы даводзілася чуць Вас на сцэне і захапляцца чысцінёй Вашай мовы. Дзе Вы нарадзіліся і якой мовай карысталіся ў дзяцінстве?**

— Я родам з Нарачы, адкуль паходзяць нашы вядомыя паэты Максім Танк, Іосіф Скурко, Яўген Шабан. У вёсцы, дзе я нарадзілася, гучала толькі беларуская мова, для мяне родная з дзяцінства.

**— Не адзін дзесятак гадоў Вы прысвяцілі працы ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы. А з чаго пачыналася Ваша творчае жыццё актрысы?**

— Яшчэ калі вучылася на чацвёртым курсе тэатральна-мастацкага інстытута, мяне запрасілі ў Купалаўскі тэатр на галоўную ролю ў спектаклі «Пакуль вы маладыя» па раману Івана Мележа. З той пары гэты тэатр і стаў маім другім домам.

**— Апошнім часам у друку пачалі пісаць аб штучнай, ненатуральнай беларускай мове акцёраў Купалаўскага акадэмічнага тэатра. І нават аб тым, што там любяць пачынаць рэпетыцыі на расійскай мове. Няўжо гэта сапраўды так?**

— Такія моманты, калі некаторыя акцёры пачыналі гаварыць на рэпетыцыях па-руску, сапраўды мелі месца. Але тое былі ўсё ж адзінкавыя выпадкі.

**— У Акадэміі музыкі на вакальна-харавым аддзяленні Вы выкладаеце курс культуры мовы. Як студэнты працуюць над сваім вымаўленнем, што бярэцца імі за ўзор, эталон?**

— Культура мовы пачынае выкладацца на двух падрыхтоўчых курсах, а потым на першым курсе вакальна-харавога аддзялення, дзе рыхтуюць спевакоў. Студэнтам даводзіцца вывучаць гэтую дысцыпліну нядоўгі час. Заняткі праводзяцца два разы на тыдзень. І ў абавязковым парадку працуем з беларускім матэрыялам. Напачатку, на ўводным курсе займаемся тэхнікай вымаўлення, а пасля студэнты самі выбіраюць вершы, урыўкі з прозы. І тут адразу відаць, хто як падрыхтаваны, хто чым цікавіцца, колькі кніжак паэзіі ці прозы хаця б перагартаў, каб выбраць той ці іншы ўрывак. Мы працуем як над класікай, так і над новымі творамі беларускіх пісьменнікаў. Студэнты з задавальненнем працавалі над паэмай Сяргея Законнікава «Чорная быль», аповесцю Васіля Быкава «Аблава», над паэмай Якуба Коласа «Новая зямля», над паэтычнымі творамі многіх нашых беларускіх паэтаў.

**— Гэтай дысцыплінай займаюцца ахвотна?**

— Той, хто хоча авалодаць добрым вымаўленнем і да справы падыходзіць старанна, той атрымлівае вялікае задавальненне.

**— Ці ёсць ужо нейкія вынікі?**

— У гэтым годзе ўпершыню праводзіўся экзамен па культуры мовы на сцэне Акадэміі музыкі. Гэта дабаўляла адказнасці, але, як мне здаецца, студэнты паказалі сябе вельмі прафесійна.

**— Асноўны накірунак у Вашай рабоце са студэнтамі — праца над вымаўленнем?**

— Не толькі. Мне хочацца разбудзіць у кожнага студэнта сваё «я», разбудзіць іх фантазію, выявіць эмацыянальнасць. Усё — праз сябе, праз сваё сэрца.

**— Вы часта бываеце на сустрэчах у школах, тэхнікумах, інстытутах і іншых працоўных калектывах. Як атрымліваецца ў Вас дыялог са слухачамі?**

— Амаль заўсёды ўстанаўліваецца добры кантакт. Мне часта даводзіцца выступаць перад слухачамі разам з пісьменнікамі. Такія сустрэчы выклікаюць у людзей цікавасць да беларускай літаратуры, да мовы нашай, да тэатральнага жыцця. Шмат хто падыходзіць і просіць параіць, што можна пачытаць у таго ці іншага пісьменніка, або наогул дапамагчы адкрыць для сябе беларускага аўтара. Ідзе дыялог, які прыносіць, на мой погляд, і карысць, і задавальненне.

Распытвала
Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.

# «Амерыканская мара» замест «светлай камуністычнай будучыні»

Міністэрствам адукацыі быў распаўсюджаны ліст, адрасаваны абласным упраўленням адукацыі. Ліст інфармаваў аб пачатку конкурснага адбору вучняў IX — XI класаў для гадавога навучання ў ЗША і ўтрымліваў просьбу садзейнічаць арганізатару конкурсу — Амерыканскай радзе выкладчыкаў расійскай мовы і літаратуры (расійскамоўная абрэвіятура — АСПРЯЛ). Дакумент быў падпісаны першым намеснікам міністра адукацыі Беларусі Людмілай Сухнат. Паведамленні аб пачатку конкурсу прайшлі ў многіх сродках масавай інфармацыі краіны.

Што дасць нашым школьнікам такое навучанне за мяжой? Каб атрымаць адказ на гэта ды іншыя пытанні, карэспандэнт «Нашага слова» У. Панада звярнуўся ў менскае прадстаўніцтва АСПРЯЛ. Ягоным суразмоўцам стаў адзін з супрацоўнікаў арганізацыі Сяргей Кароль.

С. К. Адбор школьнікаў старэйшых класаў дзеля гадавога навучання ў Амерыцы адбываецца ў межах праграмы «Акт падтрымкі свабоды», распрацаванай урадам ЗША для рэспублік былога СССР. Выкананне праграмы даверана АСПРЯЛ — грамадскай арганізацыі, створанай у 1974 годзе. Нават тады, у час, калі СССР для амерыканцаў атаясамліваўся з Расіяй — «імперыяй зла» і адзінай расійскай мовай, АСПРЯЛ актыўна спрыяла наладжванню студэнцкага абмену паміж навучальнымі ўстановамі абедзвюх краін. Таму сёння, пасля распаду СССР, выкананне адукацыйнай праграмы амерыканскага ўрада было даверана менавіта гэтай няўрадавай арганізацыі, якая мае сувязі ва ўсіх рэспубліках былога СССР.

**У. П. Які змест «Акта падтрымкі свабоды»?**

С. К. Гэта — адбор шляхам адкрытага конкурсу школьнікаў IX — XI класаў. Пераможцы конкурсу атрымаюць стыпендыю ўрада ЗША, якая дазволіць ім на працягу года жыць у амерыканскіх сем'ях і вучыцца ў амерыканскіх школах. Галоўныя патрабаванні да падлеткаў — добрае веданне англійскай мовы, добрыя поспехі ў школе, а таксама наяўнасць асабістых якасцей, якія дазваляюць ім адаптавацца і жыць у новым асяроддзі.

Школьнікі будуць навучацца ў адных класах з амерыканскімі, карыстаючыся тымі ж самымі навучальнымі праграмамі, якія ў свеце лічацца не найгоршымі. Акрамя таго, яны, жывучы ў англамоўным асяроддзі, дасканала засвояць англійскую мову, што пасля вяртання на радзіму таксама будзе для іх станоўчым фактарам.

Да таго ж, карысным будзе знаёмства нашых маладых грамадзян са светам Захаду не праз прызму савецкай прапаганды ці тэлевізійныя рэкламныя ролікі, а праз удзел у яго жыцці. Для маладых гэта вельмі важна: своечасова сфарміраваць свой светапогляд, убачыць людзей іншай культуры.

**У. П. Чым, на Ваш погляд, выклікана такая зацікаўленасць урада ЗША ў гэтай акцыі?**

С. К. Хачу сказаць адразу: гэта не спроба «імпарту мазгоў» ці падрыхтоўкі агентаў уплыву. Усе, падкрэсліваю, усе школьнікі пасля гадавога навучання вернуцца дадому і ў дадатак ніхто з іх на працягу наступных двух гадоў не зможа атрымаць студэнцкай візы ЗША. Рэч тут, хутчэй, у іншым: Захад (у дадзеным выпадку ЗША, хаця падобныя праграмы ёсць і ў іншых краінах, напрыклад у Англіі) зацікаўлены ва ўнутранай стабільнасці краін, якія паўсталі на месцы былога Савецкага Саюза. І ці не адзіная магчымасць спрыяння гэтаму без умяшання ва ўнутраныя справы краін — дапамога ім праз адукацыйныя праграмы. Людзі, выхаваныя савецкай сістэмай, слаба ўяўляюць накіраванасць і змест пераўтварэнняў, якія патрэбна здзейсніць дзеля таго, каб іх краіна з часткі СССР стала часткай сусветнай супольнасці. Носьбітамі новага мыслення будзе новае пакаленне, якое атрымае іншую адукацыю.

**У. П. За год? І ўсіх на адзін капыл?**

С. К. Акцыя, якую мы здзяйсняем, скіравана не на падтрымку нейкіх структур, напрыклад, таго ж СНД. АСПРЯЛ, дзейнічаючы ў кожнай краіне, звяртае ўвагу на мясцовыя асаблівасці, у тым ліку на дэмаграфічныя і нацыянальныя. Праблемы нацыянальнай ці расійскамоўнай школы для нас не існуе. «Акт падтрымкі свабоды» прадугледжвае навучанне школьнікаў выключна па-англійску з улікам іх асабістых схільнасцей — і толькі.

* * *

На пытанні аб удзеле грамадзян Беларусі ў адукацыйных праграмах урада ЗША адказалі Аляксандр Паваляеў і Лазар Жаваранкаў — супрацоўнікі ўпраўлення замежных сувязей Міністэрства адукацыі.

Л. Ж. Міжнародныя адукацыйныя абмены, роўна як і міжнародны інфармацыйны абмен, з'яўляюцца адной з праяў адкрытага грамадства. Але за апошнія гады ў нашай краіне адбыліся змены ў справе адукацыі. Прычыны гэтых перамен пераважна эканамічныя. Навучанне студэнтаў і школьнікаў за мяжой каштуе вельмі дорага, і сёння Беларусь не ў стане аплачваць навучанне студэнтаў нават у краінах Усходняй Еўропы, не кажучы ўжо пра больш заможныя. Таму праграмы адукацыі беларускіх дзяцей, аплачаныя ўрадамі іншых краін, з'яўляюцца для нас значнай дапамогай.

**У. П. І адной з такіх праграм будзе «Акт падтрымкі свабоды»? Колькі школьнікаў возьме ў ёй удзел?**

А. П. У гэтым годзе было адабрана сорак тры вучні. Але падчас сустрэчы з прадстаўніком АСПРЯЛ Дэнам Дэвідсанам ім было адзначана, што амерыканскі бок задаволены ўзроўнем падрыхтоўкі нашых школьнікаў, і ў далейшым квота Беларусі можа быць павялічана.

**У. П. Нават павялічана ..? Вы лічыце, што неабходнасць прыстасоўвацца да новага асяроддзя і адрозненні навучальных праграм абедзвюх краін ніяк не паўплываюць на ўзровень ведаў навучэнцаў? Праўда, ёсць яшчэ і іншыя аспекты гэтай акцыі.**

А. П. Школьнікі не страцяць нічога. Праграмы школ ЗША дастаткова блізкія да нашых, а што да прадметаў, якія там не выкладаюцца, дык пасля вяртання дадому ўдзельнікі праграмы будуць апытвацца ці экзаменавацца па гэтых прадметах.

**У. П. Вынікі навучання будуць кантралявацца? Кім? Намі?**

Л. Ж. Пытанні дзейнасці ў краіне прадстаўнікоў АСПРЯЛ, фонду Сораса ды іншых арганізацый, якія займаюцца справай адукацыйнага абмену (дарэчы, аднабаковага), узгоднены на вышэйшым узроўні кіраўніцтва краіны. Наша міністэрства аказвае падтрымку выкананню праграмы «Акт падтрымкі свабоды», але рэальную інфармацыю аб умовах навучання і жыцця нашых школьнікаў у ЗША — тых, хто паехаў туды ў мінулым годзе — мы атрымаем толькі ў жніўні наступнага года.

**У. П. Значыць, усё надзейна?**

А. П. Мы — я маю на ўвазе Міністэрства адукацыі — не цалкам і не канчаткова ведаем прынцыпы і мэты адбору вучняў.

**У. П. Цікава, ці не азначае гэта, што павышэнне адукацыйнага ўзроўню нашых школьнікаў — не адзіная мэта дзейнасці АСПРЯЛ?**

А. П. АСПРЯЛ не хавае таго, што яе праграма распрацавана амерыканскім урадам і ім ж фінансуецца. Гэта значыць, што ажыццяўляючы яе, улады ЗША маюць свае мэты, не апошняя сярод якіх — стварэнне ў краіне кола адукаваных людзей, знаёмых з жыццём ЗША, якія ў будучыні могуць спрыяць наладжванню і замацаванню кантактаў паміж нашымі краінамі.

**У. П. Падрыхтоўка «агентаў уплыву»?**

Л. Ж. Так, Амерыка зацікаўлена ў пашырэнні свайго ўплыву ў краінах, што паўсталі на месцы СССР, і ў тым ліку ў Беларусі. І адзін са спосабаў дасягнення гэтага — уплыў на будучую інтэлектуальную эліту. Дарэчы, праца ў гэтым накірунку вядзецца не толькі са школьнікамі старэйшых класаў. АСПРЯЛ сумесна з фондам Сораса ўжо распрацавала падобныя праграмы нават для дзяцей дашкольнага ўзросту. Што датычыць студэнцтва — для яго ўжо створана серыя з шасці падручнікаў для гуманітарных факультэтаў.

**У. П. І ўсё ж кожная з краін дбае пра свае інтарэсы. Наколькі адпавядае інтарэсам Беларусі ўдзел яе грамадзян у адукацыйных праграмах іншых краін?**

А. П. Наша дзяржава ёсць частка свету. Імкненне ізалявацца ад яго было б пачаткам новага застою. Таму знаёмства нашай моладзі з краінамі замежжа і навучанне ў іх — не прымус, а неабходнасць. Іншая рэч, што беручы ўдзел у гэтым працэсе, мы мусім перш за ўсё браць пад увагу свае патрэбы. Асабіста я мяркую, што сёння, калі ўплыў на нас эканомікі, ідэалогіі і культуры Расіі паменьшаў, а Амерыкі ўзмацніўся, мы павінны памятаць, што наша краіна ёсць частка Еўропы і нават больш таго — частка свету. Мы не павінны зачыняцца ў межах адной прапанаванай нам мадэлі развіцця. Нам трэба вучыцца, але выбіраць настаўнікаў мы мусім самі.

* * *

Што можна сказаць, абагульняючы выказванні маіх суразмоўцаў? Перш за ўсё, адукацыйная праграма амерыканскага ўрада не з'яўляецца акцыяй чыстай міласэрнасці. Сродкі, прызначаныя на яе ажыццяўленне, будуць укладзены ў амерыканскія, а не беларускія школы, перададзены амерыканскім сем'ям, якія будуць прымаць нашых школьнікаў. Стыпендыі, выплачаныя навучэнцам, будуць выдаткаваныя імі таксама ў ЗША. Перакладаючы ўласныя грошы з кішэні ў кішэню, амерыканскі ўрад патраціцца адзінае на навучанне сарака трох беларускіх школьнікаў, і наўрад ці сума, патрачаная на гэта шырока рэкламаванае мерапрыемства, перавысіць кошт дзённага побыту войск тых жа ЗША ў Самалі.

Але любыя фінансавыя страты вартыя атрыманых прыбыткаў, у дадзеным выпадку — палітычных. Сёння, калі пасля распаду СССР і атрымання Беларуссю незалежнасці са свядомасці грамадства знікае комплекс залежнасці ад «старэйшага брата» з Масквы, свой шанец атрымала Амерыка, якая, у адрозненне ад Расіі, была і застанецца звышдзяржавай, што імкнецца пашырыць свой уплыў у свеце. Удзел у фарміраванні свядомасці і светапогляду новага пакалення лідэраў, новага пакалення інтэлектуальнай эліты — гэта вялікі шанец Амерыкі праз гады заняць у свядомасці нашага грамадства тое месца, якое сёння пакідае вольным Расія.

Ці павінна разуменне гэтага стаць прычынай адмаўлення ад прапанаванай Захадам адукацыйнай дапамогі? Безумоўна, не. Адзінае — мы не павінны слепа давяраць лозунгам, падмяняючы імкненне будаваць «амерыканскую мару» замест светлай камуністычнай будучыні. Толькі гэта дазволіць Беларусі знайсці сваё месца ў сусветным супольніцтве, а не ў сферы чыіх-небудзь дзяржаўных інтарэсаў.

У. ПАНАДА

Старыя беларускія гімназіі

Рубрыку вядзе народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль

# ГОРКАЯ ЯМУ ВЫПАЛА ДОЛЯ

*26 траўня гэтага года «Наша слова» (№ 21) пад рубрыкай «Старыя беларускія гімназіі» змясціла артыкул «Адгукніцеся, выхаванцы гімназій», дзе прасіла чытачоў дасылаць рэдакцыі матэрыялы пра жыццёвыя лёсы колішніх навучэнцаў беларускіх гімназій. Адным з першых водгукаў на гэты зварот стаў допіс Яўгена Ігнатовіча з Менска, які (у скарочаным выглядзе) сёння прапануем чытацкай увазе.*

Я ВЫРАШЫЎ напісаць пра аднаго з былых вучняў Радашковіцкай беларускай гімназіі, пра яго драматычны лёс.

Недалёка ад мястэчка Гарадок (цяпер вёска) на развілцы дарог Гарадок — Ракаў і Гарадок — Яршэвічы ляжыць невялікая вёсачка Гароднікі Маладзечанскага раёна. Тут нарадзіўся і жыў былы вучань Радашковіцкай беларускай гімназіі Яўген Бародзіч.

Мне вядома, што калі палякі закрылі гэту гімназію, Яўген вельмі перажываў. Пасля ён паехаў у Вільню. Але працягваць там вучобу яму не ўдалося, бо застаўся адзіным гаспадаром у бацькоўскай хаце: бацька памёр, а маці пераехала да другога мужа ў суседнюю вёску. Нягледзячы на маладосць, Яўген добра вёў гаспадарку. Рана ажаніўся, жонкай яго стала спакойная і працавітая Вера з недалёкай ад Гароднікаў вёскі Шалыгі.

Відаць, таму, што ён быў узорным гаспадаром (меў хатнюю жывёлу, пчол, сад), а ў дадатак ва ўсім наваколлі толькі ён адзін раней вучыўся ў гімназіі, праз год пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР Яўгена выбралі старшынёй калгаса ў вёсцы Пятроўшчына. Варта сказаць, што тады ў Заходняй Беларусі калгасы з'яўляліся яшчэ рэдкасцю.

Пачалася вайна. Яўгена Бародзіча схапілі немцы. З вялікай цяжкасцю яму ўдалося выратавацца ад гібелі. Вярнуўся ў свае Гароднікі. Неўзабаве пайшоў працаваць на збожжапрыёмны пункт у Гарадку, дзе прымаліся падаткі збожжам ад насельніцтва.

Наступіла другая акупацыйная зіма. На той час сям'я Яўгена складвалася з пяці чалавек: двое сыноў, жонка, цешча. Прыкладна ў студзені 1943 года Яўген прыняў рашэнне разам з сям'ёй ісці ў партызаны. Але бабка Ганулька (цешча) не пагадзілася, сказала, што яна ўжо старая, што баяцца ёй, маўляў, няма чаго. Летам 1943 года карнікі аблажылі блакадай Налібоцкую пушчу. Партызаны, сціснутыя блакадай, перш за ўсё імкнуліся выратаваць параненых, дзяцей, старых, якіх было многа ў атрадах. Дзеля гэтага быў створаны падземны партызанскі шпіталь. Там санітаркай працавала Вера Барадзіч. Усё магло скончыцца добра. Але сярод палонных партызан знайшоўся здраднік, які паведаміў пра шпіталь. Карнікі засыпалі гэтае месца гранатамі. Не выратаваўся ніхто.

Дзе загінуў Яўген Бародзіч — невядома. Можа, сустрэў смерць у ходзе прарыву блакады, магчыма таксама, што ён ахоўваў той падземны шпіталь.

Пасля вызвалення бабка Ганулька адна жыла ў хаце Яўгена Барoдзіча некалькі год. Зразумеўшы, што ні дачкі з унукамі, ні зяця ўжо не дачакацца, яна прыняла пагарэльца, дзеда Кахановіча з вёскі Ваўчкі. А ў вёсцы Пажарышчы да сваіх апошніх дзён чакала вяртання сына Марыя Ігнатаўна Будрык (памерла ў 1957 годзе). Напэўна, многія маці да канца жыцця не могуць паверыць у смерць дзяцей, тым больш, калі сведкаў іх гібелі не захавалася.

Зараз у вёсцы Гароднікі стаіць дагледжаная хата Яўгена Бародзіча. Там жывуць сваякі Кахановіча.

На плошчы ў Гарадку высіцца помнік мясцовым жыхарам, якія загінулі ў барацьбе з нямецкімі захопнікамі. Сярод іншых прозвішчаў на помніку напісана: «Е. В. Бородич». Але чамусьці сярод гэтых прозвішчаў не знайшлося месца для Веры Бародзіч і яе сыноў.

На мой погляд, трагедыя сям'і Яўгена Бародзіча з'яўляецца прыкладам вечнай трагедыі беларускага народа, беларускай зямлі, якая знаходзілася ў эпіцэнтры пастаянных войнаў.

Яўген ІГНАТОВІЧ.

г. Менск.

---

Беларускае замежжа

# Беларусы ў Аўстраліі

Эміграцыя беларусаў у гэтую, магчыма, найдалейшую ад Беларусі, краіну пачалася ў 1948 годзе. Спачатку невялікая колькасць самотных хлапцоў і дзяўчат, а пасля цэлыя сем'і пачалі прыязджаць сюды на сталае жыццё.

Нашы землякі ў Аўстраліі адразу адчулі вялікую патрэбу ў стварэнні згуртавання. У кастрычніку 1950 года ў Сіднеі было арганізавана Беларускае аб'яднанне Аўстраліі. Тады ж узніклі два яго аддзелы — у Сіднеі і Мельбурне.

У 1953 годзе аўтар гэтых радкоў трапіў на сталае жыццё ў Сіднеі. Пачаў працаваць сакратаром Беларускага аб'яднання Аўстраліі. Паступова наладжваліся сувязі з аўстралійскімі суполкамі і арганізацыямі палякаў, літоўцаў, славакаў, харватаў, балгар. Традыцыяй стала правядзенне агульных дэманстрацый эмігрантаў з краін, паняволеных камуністамі, па Сіднею, а пазней — па сталічнаму гораду Канберы. Наперадзе было бачыць, як наперадзе калоны лунаў наш бел-чырвона-белы сцяг. І ў першых радах заўжды крочылі Апанас Алехнік, Міхась і Рэня Зуі, сем'і Мікалая і Уладзіміра Пацко, Міхась Малеўскі, Янка Юхневіч.

У хуткім часе ў Сіднеі былі арганізаваны Беларускі хор, які ўзначаліў А. Анічкаў, танцавальны гурток і гурток мастацкай самадзейнасці. З году ў год гледачы з прыхільнасцю сустракалі пастаноўкі «Паўлінкі», «Пінскай шляхты», іншых беларускіх п'ес. Пачаў выходзіць і часопіс аўстралійскіх беларусаў «Новае жыццё».

Дзейнасць Беларускага аб'яднання Аўстраліі заўважылі. У госці да нас на святкаванне ўгодкаў абвяшчэння Незалежнасці Беларусі 25 сакавіка 1918 года прыходзілі прадстаўнікі дзяржаўных структур Аўстраліі (у прыватнасці, сенатар спадар Андэрсан). Частыя госці — кіраўнікі румынскай арганізацыі Д. Унтару і харвацкай грамады Ф. Лавакović, шмат іншых.

Аўстралійскім беларусам удалося наладзіць сувязі з консульствамі і пасольствамі Карэі, В'етнама, Кітая ў Аўстраліі. У сваю чаргу кіраўніцтва беларускай арганізацыі неаднойчы наведвала замежныя амбасады. А мэтай гэтых візітаў мы мелі агульны клопат аб Беларусі: імкнуліся гаварыць цэламу свету праўду пра Беларусь.

Аўтару гэтых радкоў давялося ўдзельнічаць у тыднёвай Аўстралійскай грамадзянскай канвенцыі па справах эміграцыі.

У 1954 годзе ў Сіднеі была арганізавана вельмі важная і ўплывовая эмігранцкая арганізацыя «Злучаная рада эмігрантаў з паняволеных камуністамі краінаў». Тады ўвайшло ў яе і наша аб'яднанне.

Вялікую пашану здабыў сабе Беларускі хор. Хаця і невялікі колькасцю, ён імкнуўся не прапускаць ніводнай урачыстасці. Хор выступаў і на міжнародных святах. Многія народныя і рэлігійныя песні ў выкананні хору былі запісаны на кружэлкі.

Значны ўклад у арганізацыю хору ўнёс А. Анічкаў разам са сваімі дочкамі Валянцінай і Нінай. Яны ніколі не шкадавалі часу на грамадскую працу.



...А ў 1975 годзе (праз чвэрць стагоддзя пасля прыезду першых беларусаў у Аўстралію) федэральны ўрад гэтай краіны зрабіў перапіс усіх актыўных эмігранцкіх арганізацый. Кожнай з іх прысвяцілі асобную кніжку з дакладнымі назвамі арганізацыі і адрасамі. Беларускае аб'яднанне Аўстраліі атрымала, такім чынам, афіцыйнае прызнанне з боку ўлад, што, несумненна, спрыяла яго далейшай дзейнасці.

Алесь АЛЕХНІК.

Аўстралія.

---

Згадкі

# Пасядзелкі

ДАЎНЕЙ на Беларусі так называліся зборы аднавяскоўцаў па вечарах, якія збіраліся звычайна па святах. Гэтак было і ў нашай вёсцы Бабалі Камянецкага сельсавета Менскай вобласці, у навакольных вёсках Валожыншчыны. Праўда, сям-там такія зборы называліся вячоркамі. Але ж гэта не вельмі дакладна, бо на вячорках пераважалі танцы, музыка, спевы, гульні.

...Я добра памятаю той час, хоць мінула ўжо шмат гадоў. Наша хата — самая, бадай, прасторная ў вёсцы. Па вечарах сюды часта прыходзілі амаль усе дарослыя мужчыны Бабалёў. Жанчыны ж збіраліся не толькі нагутарыцца, але яшчэ і прасці кудзелю.

Якая ж прычына згаданых пасядзелак? Пра што там вечарамі гаманілі аднавяскоўцы?

Лічу, што такія пасядзелкі — традыцыйная, своеасаблівая рада. Тут супольна вырашаліся разнастайныя, у асноўным гаспадарчыя справы, якія патрабавалі неадкладнага сумеснага вырашэння, агульнай дамоўленасці. Напрыклад, добраўпарадкаванне вясковага выгану, своечасовая ачыстка грамадскіх студняў, парадак догляду за санітарным станам сядзіб, вуліц і г. д. Гаворка на пасядзелках заўсёды лілася спакойна і нетаропка. Сярод астатняга тут, натуральна, абмяркоўваліся і асабістыя справы. Так, бацькі цікавіліся ў суседзяў, каму б аддаць сына-падлетка, каб яго навучылі нейкаму добраму рамяству. Нямала размоў на пасядзелках прысвячалася будаўніцтву. Нічога тут дзіўнага, бо жылі тады яшчэ (да калгасаў) на гаспадарках, аднаасобна, і патрабаваліся гумны, каб было дзе зберагчы ўраджай. А пабудавацца аднаму, без дапамогі суседзяў, было амаль немагчыма. Вельмі цікава, што ўсе без выключэння дамовы, якія ладзіліся на пасядзелках, абавязкова выконваліся. І яшчэ: на пасядзелках ніколі не сварыліся, не крычалі, не лаяліся. Гаворка была толькі лагодная і добразычлівай. Часам яна аздаблялася згадкамі аб незвычайных здарэннях і нават казкамі. А як цудоўна спявалі на пасядзелках нашы жанчыны. Гэтага нельга забыць!

Пазней многія пытанні, якія разглядаліся і паспяхова вырашаліся на вясковых пасядзелках, перайшлі да кампетэнцыі мясцовых улад. Не скажу, што справа ад гэтага выйграла. Таму мне падаецца, што старадаўні беларускі народны звычай супольнага, сяброўскага разгляду аднавяскоўцамі сваіх надзённых праблем павінен адрадзіцца. Бо сёння, як ніколі, бадай, кожнаму з нас патрэбна сардэчная, спагадлівая падтрымка суседа. Усе мы зможам выстаяць толькі разам.

Станіслаў ШКАДЗІНСКІ,
правадзейны сябра
Геаграфічнага таварыства
Беларусі.

---

◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆

# Беластоцкі «Часопіс»— № 11

«Эвакуацыя вялікай часткі кіраўніцтва СМБ на захад, галоўным чынам у Нямеччыну, адбывалася непасрэдна перад бальшавіцкім наступам на Беларусь у ліпені 1944 года. У новым месцы прабывання галоўным заданнем кадры СМБ было забеспячэнне адпаведных умоў жыцця для юнакоў з Беларусі, што працавалі пераважна ў фабрыках Юнкерса ці вучыліся і працавалі ў тэхнічнай арганізацыі Тод. Былі гэта падросткі, вывезеныя раней з Віцебшчыны, Магілёўшчыны і Меншчыны. Паводле сведчання Г. Гурыны, было іх каля 5 тысяч» — так пачынаецца апошні раздзел успамінаў Янкі Жамойціна «Саюз беларускай моладзі». Аўтар падае адрас: 220052, г. Менск, вул. Някрасава, д. 35, корпус 1, кв. 68, на які ён просіць дасылаць матэрыялы, звязаныя з гісторыяй СМБ.

Мікола Сахарэвіч прапануе заканчэнне артыкула «У Дубічах на выхадзе стагоддзя», а таксама холмскую імпрэсію «На старым могільніку», якая ілюстравана здымкам барварства на могілках у Холмшчыне.

«Часопіс» друкуе ліст Лены Глагоўскай з Гданьску, у якім яна вяртае з небыцця дакументы і факты з грамадскага і культурнага жыцця патрыётаў беларушчыны.

«Часопіс» багата ілюстраваны рэдкімі здымкамі.

Н. К.

Вучымся!

Удакладнім

# Знакі прыпынку пры аднародных членах сказа

### АДНАРОДНЫЯ ЧЛЕНЫ З УСТУПАЛЬНЫМІ І ЎМОЎНЫМІ ЗЛУЧНІКАМІ

1. Уступальныя злучнікі **хоць, дарма што** звязваюць два аднародныя члены ў сказе, паміж якімі заўсёды ставіцца коска: *Шапаціць мне штосьці жыта, хоць слоў не гаворыць* (Янка Купала). *Будынак яшчэ добры, дарма што стары* (Кузьма Чорны). *Хітры гэты ляснік з каморы, дарма што малады* (Якуб Колас).

**Заўвага.** Калі аднародныя члены з уступальнымі злучнікамі знаходзяцца ў сярэдзіне сказа, то коска пасля гэтых членаў не ставіцца: *Дужы, хоць невялікі конік добра ішоў у плузе* (П. Галавач). *У невялікім, дарма што гарадскім клубе было шмат народу* (М. Гарэцкі). Ад аднародных членаў з уступальнымі злучнікамі трэба адрозніваць адасобленыя члены: *Шляхам, хаця і нялёгкім, мы цвёрда да шчасця ідзём* (А. Звонак). *Аграном, дарма што малады, хадзіў з барадой* (М. Зарэцкі).

2. Умоўны злучнік **калі** звязвае два аднародныя члены ў сказе, паміж якімі заўсёды ставіцца коска: *Абодва хлапчукі ўжо напэўна вярнуліся дадому, калі не заблудзіліся* (Янка Маўр). *Цяпер блізка да таго, што яны могуць разысціся надоўга, калі не назаўсёды* (Кузьма Чорны).

**Заўвага.** Калі аднародныя члены з гэтым злучнікам знаходзяцца ў сярэдзіне сказа, то коска пасля іх не ставіцца, напрыклад: *У гумне, калі не ў хаце адпачываў стары каваль* (М. Чарот).

### АДНАРОДНЫЯ ЧЛЕНЫ З УСТУПАЛЬНА-СУПРАЦІЎНЫМІ ЗЛУЧНІКАМІ

Уступальна-супраціўныя злучнікі **хоць — але, хоць — ды, хоць — а** і інш. звязваюць два аднародныя члены, паміж якімі ў сказе заўсёды ставіцца коска: *Хоць стомленая, але вясёлая вярнулася Фрося дадому* (З. Бядуля). *Хоць балюча, ды без злосці мне сябры давалі ў косці* (П. Панчанка).

**Заўвага.** Калі аднародныя члены з уступальна-супраціўнымі злучнікамі размешчаны ў сярэдзіне сказа, то перад словам **хоць,** якое з'яўляецца часткай гэтых злучнікаў, коска не ставіцца: *Добра было б адпачыць хоць не месяц, а тыдзень* (А. Чарнышэвіч).

### АДНАРОДНЫЯ ЧЛЕНЫ З ПАРАЎНАЛЬНА-СУПАСТАЎЛЯЛЬНЫМІ І ЎМОЎНА-СУПАСТАЎЛЯЛЬНЫМІ ЗЛУЧНІКАМІ

1. Параўнальна-супастаўляльныя злучнікі **як-так (так і), не столькі — колькі** звязваюць два аднародныя члены, паміж якімі ў сказе заўсёды ставіцца коска: *Як дзень, так і ноч палыхае ў домнах агонь* (А. Вялюгін). *Як цяпер, так і потым усё будзе ісці сваім парадкам* (М. Лынькоў). *Не столькі бацька, колькі маці клапоціцца пра лёс сваіх дзяцей* (Якуб Колас).

**Заўвага. 1.** Калі аднародныя члены з параўнальна-супастаўляльнымі злучнікамі знаходзяцца ў пачатку сказа і выдзяляюцца лагічна, тады пасля іх можа ставіцца працяжнік: *Як на полі, так і ў школе — не згультаіць ні хвіліны* (П. Броўка). *Не столькі летам, колькі зімой — весяліліся ў вёсцы* (В. Каваль).

**Заўвага 2.** Калі аднародныя члены з параўнальна-супастаўляльнымі злучнікамі знаходзяцца ў сярэдзіне або ў канцы сказа, то перад словамі **як, не столькі,** якія з'яўляюцца часткай гэтых злучнікаў, коска не ставіцца: *Горад шумеў як дзень, так ноч тысячамі галасоў* (Якуб Колас). *Пачалі расказваць пра забастоўкі як у горадзе, так і ў вёсцы* (П. Пестрак). *На дварэ было не столькі цёмна, колькі мокра: церусіў халодны восеньскі дождж* (М. Зарэцкі).

2. Умоўна-супастаўляльныя злучнікі **калі-то, калі-дык, як-дык** звязваюць два аднародныя члены, якія ў сказе аддзяляюцца адзін ад другога пры дапамозе коскі: *Калі не выберацца, то ўгразне конь на балоце* (Кузьма Чорны). *Як не сігары, дык чорныя іхнія мары каля граніцы дымілі пажарам лясным* (А. Куляшоў).

**Заўвага 1.** Калі аднародныя члены сказа з умоўна-супастаўляльнымі злучнікамі знаходзяцца ў сярэдзіне або ў канцы сказа, то перад словамі **калі, як,** якія з'яўляюцца часткай гэтых злучнікаў, коска не ставіцца: *Учора зусім выпадкова яна сустрэлася вечарам на вуліцы калі не з таварышкай, то ва ўсякім разе з блізкай знаёмай* (М. Лынькоў). *Заслугі калі не зараз, дык потым адзначаць* (Міхась Чарот).

**Заўвага 2.** Для сувязі аднародных членаў сказа могуць ужывацца ўмоўна-супастаўляльныя злучнікі без кампанентаў **калі, як.** Незалежна ад гэтага паміж аднароднымі членамі ставіцца коска: *Не конь, то карова ходзіць на ўзмежку* (Якуб Колас). *Не сёння, дык заўтра пачнецца касьба* (А. Бялевіч).

### АДНАРОДНЫЯ ЧЛЕНЫ З ДАЛУЧАЛЬНЫМІ ЗЛУЧНІКАМІ

1. Калі аднародныя члены звязаны далучальнымі злучнікамі **і, ды, і то, ды і то, і таму,** то знакі прыпынку паміж гэтымі членамі ў сказе не ставяцца: *Тамаш гаварыў сам з сабою і гэтага не заўважаў* (Змітрок Бядуля). *У мокрую ды яшчэ халодную восень лісцявыя дрэвы надта хутка чарнеюць* (І. Грамовіч). *Мацей толькі першы дзень выйшаў на сваё поле і то быў хворы* (Цётка). *Яна першы раз выйшла на маёўку ды і то на водшыбе прымасцілася* (І. Гурскі).

Калі ж злучнікі **і, ды** далучаюць аднародныя члены з адценнем уставачнага падагульнення, тады гэтыя члены выдзяляюцца з двух бакоў коскамі або працяжнікамі (пры ўзмоцненым сэнсавым і інтанацыйным выдзяленні): *Бярозы, вольхі, і наогул усе лісцявыя дрэвы, зімой вельмі крохкія* (Якуб Колас). *Студэнтам — ды, бадай, кожнаму жыхару — хацелася мець сваё пасаджанае ў горадзе дрэўца* (І. Грамовіч).

2. Калі злучнік **ды** паўтараецца і далучае два, тры і больш аднародных членаў, то паміж імі заўсёды ставіцца коска: *А настольнік — пласт імшысты, ды прыгожы, ды іскрысты* (Якуб Колас). *Толькі мы, ды Радзіма, ды балотны гушчар помнім кожнага імя* (П. Глебка).

3. Калі аднародныя члены звязаны далучальнымі злучнікамі **ды і, а, прычым, а таму** і інш., то паміж гэтымі членамі ў сказе звычайна ставіцца коска: *Горад, ды і вёска перабудоўваліся на новы лад* (М. Зарэцкі). *Дзеду, а тым больш унуку ў хаце не сядзелася* (Змітрок Бядуля). *Седзячы вакол вогнішча, начлежнікі доўга расказвалі розныя прыгоды, прычым часта паўтаралі адно і тое ж здарэнне ў розных варыянтах* (М. Зарэцкі). *У лесе было ціха і цёмна, а таму крыху страшнавата* (Янка Маўр). *Кастусь Лукашэвіч быў вельмі задумёны, бадай што сумны* (К. Чорны). *Кар'ер быў стары, амаль што закінуты* (М. Лынькоў).

**Заўвага.** Калі злучнік **ды і** выступае ў размоўнай форме **дый,** тады паміж аднароднымі членамі знакі прыпынку не ставяцца: *Язык век па балоце скача дый не гразне* (Якуб Колас). *Вожык зробіць сабе хатку дый будзе жыць* (Я. Брыль).

4. Калі для сувязі аднародных членаў ужываюцца далучальныя словы **словам, адным словам,** якія сумяшчаюць і пабочную функцыю, то коска ставіцца не толькі перад гэтымі словамі, але і пасля іх: *У яе была карова, хата, адным словам, гаспадарка* (А. Чарнышэвіч). *Ён завіхаўся ля чыгуннай печкі, шчапаў лучыну, адным словам, займаўся мірнымі гаспадарчымі справамі* (М. Лынькоў).

Калі ж далучэнне аднародных членаў у сказе падкрэслена з асаблівай сілай, тады перад словамі **словам, адным словам** ставіцца працяжнік або коска з працяжнікам (пры ўзмоцненай інтанацыі і лагічным выдзяленні): *Дзень быў цёплы, сонечны — адным словам, вясенні* (М. Гарэцкі). *Цяпер Сайка злез з печы, ажывіўся, паруxавеў,— словам, другім стаў чалавекам* (Якуб Колас).

5. У тых выпадках, калі аднародныя члены з далучальнымі злучнікамі парцэліруюцца (ад фр. parceller — дзяліць на малыя, дробныя часткі) і становяцца функцыянальнымі аналагамі сказа, яны аддзяляюцца пры дапамозе кропкі або шматкроп'я (пры большай паўзе): *Грыбы не ў полі збіраюць. А ў лесе.* (С. Баранавых). *Ён крыкнуць хацеў. Ды не мог* (А. Куляшоў). *Яны марудна прасоўваліся ўперад. Але ўпэўнена* (С. Грахоўскі). *Трэба дроў прывезці... Ды моху* (К. Чорны). *Усе стаялі на вуліцы... Глядзелі... І маўчалі* (М. Гарэцкі).

Хачу ведаць

# На ўласнай спіне

Заўсёды з цікавасцю чытаю «Наша слова». У якасці падарунка выпісаў газету сёлета сваім сябрам.

Прымаючы прыхільна ўсе публікацыі, хацеў бы, аднак, каб «Наша слова» пастаянна на сваіх старонках змяшчала кансультацыйна-даведачную калонку па моўных пытаннях. Прычым варта даць магчымасць для спрэчак, абмеркавання розных пунктаў гледжання. Гэта будзе толькі на карысць справе.

Часам і я не згодны з нейкімі рэаліямі — з вымаўленнем асобных слоў дыктарамі радыё і тэлебачання, не заўсёды давяраю слоўнікам. Звычайна такія пытанні ўзнікаюць па сітуацыі, а калі б я ведаў, з кім з дасведчаных гэта можна абмеркаваць, занатоўваў бы ў слоўнічку. Тое-сёе магу ўжо і зараз прапанаваць.

Напрыклад, у нашай мясцовасці абсалютна немагчыма сказаць: *пало́са, спі́на.* Ці дапушчальна ўсё ж сказаць *спіна́,* альбо ад такога націску трэба пазбавіцца, як ад дыялектнага? Тое ж датычыцца слоў *людзям, дзецям,* лічэбнікаў *адзінаццаць, чатырнаццаць.* Не згодны я і з ужываннем літары **ў** у нашых газетах, якую часта выкарыстоўваюць амаль механічна -- пасля галосных. Але хіба ж можна так пісаць: *пасля ўніі, на ўгра-фінскай, тры ўнцыі*? Ці, рэдагуючы вершы, псаваць іх рытм з-за гэтай «абавязковай» нескладовасці **у** нават там, дзе яно чуецца як складовае?

Цікавяць мяне і іншыя пытанні граматыкі. Напрыклад, у нашай гаворцы вельмі пашырана форма пазамінулага часу дзеяслова *(я ўжо быў паеўшы),* і не толькі яна, прычым усе маюць зусім пэўнае сэнсавае адценне. Ці быў калі-небудзь узаконены які беларускі «пэрфэкт», ці не збядняе яго адсутнасць сучасную літаратурную мову?

**А. БУБАЛА.**

г. Верхнядзвінск.

АДКАЗЫ

1. Памятаеце, у Якуба Коласа:
*Смак жыцця пазнаў на спіне,*
*Высах сам у палку...*

І ў Кандрата Крапівы:
*Зараз буду лысы дзядзя,*
*Зараз горб на спіну сядзе.*

Як бачыце, націск у слове *спі́на* падае на першы склад. Можна меркаваць, нашы паэты напісалі так не толькі таму, што яны амаль землякі (значыць, у Мікалаеўшчыне і ў Нізку вымаўлялі гэтае слова аднолькава). У першую чаргу, пэўна ж таму, што яны пісалі на беларускай літаратурнай мове. У гэтым выпадку народная вымова супала з літаратурнай нормай.

Слова *паласа́* мае і другую форму: з націскам на другі склад — *пало́са.* Абедзве формы літаратурныя.

2. Падобнае можна сказаць і пра слова *дзецям,* якое адносіцца да рознаскланяльных назоўнікаў. У гэтым выпадку за літаратурную норму прыняты дзве формы: *дзіця* і *дзіцё.* Таму ў творным склоне — *дзіцём* і *дзіцем.* А ў гэтым жа склоне множнага ліку — *дзецьмі* і *дзяцьмі,* хаця ў давальным склоне — адна форма: *дзецям.*

3. Што да напісання **ў**, то Вы слушна заўважаеце: пісаць, як у паданых Вамі прыкладах, нельга. У словах іншамоўнага паходжання **ў** не скарачаецца.

4. Не толькі ў гаворцы Вашай вёскі, але і ў сярэднебеларускіх гаворках, а таксама ў паўночна-заходняй зоне ўжываюць дзеяслоўныя формы запрошлага часу (пэрфэкт): *я быў пайшоўшы.* Іх у сваёй «Граматыцы» «ўзаконіў» Браніслаў Тарашкевіч. Але ні запрошлы час, ні прадбудучы час *(я буду пайшоўшы)* не з'яўляюцца літаратурнай нормай. Ці не збядняе яго адсутнасць нашу мову? Магчыма, сапраўды, збядняе.

Жывое слова

# Кожны Іван — сам сабе пан

Распаўсюджана прымаўка — «На Беларусі ўсе Марусі». Вядома, гэта далёка не так, хоць, сапраўды, Марыль ды Марусь на Бацькаўшчыне шмат. Але ж не менш і Іванаў. Іх таксама лічыць не злічыць. У адной толькі маёй вёсцы Беражна (Карэліцкі раён) іх было і засталося так многа, што людзі вымушаны даваць амаль кожнаму яшчэ і мянушку. Так што Іванаў у нас не блытаюць, бо з пэўнай мянушкай кожны Іван — сам сабе пан. Частка іх, хоць людзі яны даўно ўжо сталага веку, носяць свае мілагучныя мянушкі з дзяцінства. Гэта Ванько, Ванюша, Іваначко, Іваныско, Янко, Янушак, Янэчак.

Але большасць нашых Іванаў маюць мянушкі, утвораныя ад прозвішчаў, ці мянушак бацькоў: Іван Піцікаў, Іван Міхалёў, Іван Каспэркаў, Іван Лысаго, Іван-Кукуля, Іван-Барысік, Іван-Трубы, Іван Дзедкаў, Іван-Вачак, Іван-Палявік, Іван-Шабосцік, Іван-Дырко. За кожнаю мянушкаю, вядома, стаіць нейкі жыццёвы выпадак, які часта быў прычынаю ўзнікнення дасціпнай мянушкі. Калі яна трапная, то лёгка прыжывалася. Вельмі характэрна, што ўсе гэтыя мянушкі не абразлівыя. Напрыклад, Іван-Левы атрымаў сваю мянушку таму, што часам блытаў сваё з чужым. Не называюць жа яго «злодзей». Як бачым, змест амаль той самы, але гучыць больш мякка, ласкава.

Адзін наш Іван адразу носіць аж дзве мянушкі. Сваю — «Святы», а па бацьку — «Бакееў». Чалавек ён мала адукаваны, дзе трэба і дзе не трэба любіць спасылацца на Бога. Вось і стаў «Святым». А з адным нашым Іванам адбылося нейкае сальта. Гэты сумленны і працавіты хлопец ажаніўся, узяў у жонкі тутэйшую дзяўчыну Алену. І пачалі яго называць Іван... Ленін. Прайшоў час, імя Іван стала лішнім. Цяпер ён ужо проста Ленін.

Вось як узнікла яшчэ адна мянушка. Падлетак Ваня дрэнна вымаўляў асобныя словы. Калі, напрыклад, хацеў сказаць: «Я сядзеў каля куста», то атрымлівалася: «Я сядзеў кала куста» Таму да яго прыліпла мянушка Іван-Калакуст. Праўда, не да ўсіх нашых Іванаў прысталі мянушкі. Магчыма, не знайшлося трапных. А, магчыма, таму, што некаторыя з іх карыстаюцца вялікай людской павагай. Без мянушак засталіся, напрыклад, Іван Адамовіч, Іван Гурын, Іван Крамко, Іван Смолка.

**Яўген КРАМКО.**

*Гісторыя Айчыны — вайскоўцам*

М. БІЧ

# Беларусы: палітычнае і эканамічнае жыццё ў складзе Расійскай імперыі

## (канец XVIII — сярэдзіна XIX ст.)

*Пачатак у № 50.*

***Працягваем друкаваць раздзелы з новага вучэбнага дапаможніка для вайскоўцаў «Гісторыя Беларусі».***

***М. В. БІЧ.***

У памешчыцкай вёсцы павіннасці сялян і ў 40—50-я гады заставаліся ненармаванымі. Працягваўся працэс збяднення сялян, заняпаду іх гаспадарак. У выніку ўсё большая колькасць сялян не магла плаціць падаткі і выконваць іншыя павіннасці на карысць дзяржавы. Нягледзячы на адтэрміноўкі плацяжоў і скасаванне часткі нядоімак з-за немагчымасці іх спагнання, апошнія працягвалі хутка расці. У цэлым па 5 заходніх губернях дзяржаўныя даўгі і нядоімкі з памешчыцкіх маёнткаў 50-х гадоў складалі 8 млн. руб.— больш за чвэрць адпаведнай агульнарасійскай запазычанасці.

Ды і сама памешчыцкая гаспадарка ўступіла ў паласу глыбокага крызісу, які праяўляўся ў рэзкім зніжэнні даходаў, у росце запазычанасці крэдытным установам, у фінансавых банкруцтвах і распрадажы маёнткаў з аўкцыёнаў. Нават такія ўзорна арганізаваныя (на аснове паншчыны) шматгаліновыя прадпрымальніцкія гаспадаркі, як гомельскі маёнтак князя Паскевіча, дайшлі да стану фінансавага банкруцтва. У канцы XVIII — першай палове XIX ст. галоўнымі, амаль манапольнымі ўласнікамі капіталаў на Беларусі — зямлі, вады (азёр), лясных і выкапнёвых багаццяў, а таксама прыгонных сялян і грошай заставаліся дваране-памешчыкі. Імкненне да павелічэння даходаў штурхала іх да арганізацыі розных прамысловых прадпрыемстваў. Вотчынная прамысловасць выкарыстоўвала практычна бясплатную сыравіну і дармовую рабочую сілу прыгонных сялян і ў гэтых адносінах мела велізарныя перавагі над прамысловымі прадпрыемствамі, што належалі прадстаўнікам непрывілеяваных саслоўяў — купцам і мяшчанам. Апошнія павінны былі аплочваць усё — і зямельныя ўчасткі, і сыравіну, і рабочую сілу. З гэтай прычыны канкурыраваць з вотчыннікамі на рынку ім было вельмі цяжка, а часцей і немагчыма.

Страшэнныя разбурэнні, нанесеныя гарадам Беларусі у выніку войнаў другой паловы XVII— першай чвэрці XVIII ст., прывялі да таго, што беларускія гарады і ў другой палове XVIII ст. не змаглі аднавіць свой эканамічны патэнцыял і нават колькасць жыхароў папярэдняга часу. На развіццё гарадоў Беларусі і фарміраванне гарадской буржуазіі негатыўна паўплывалі таксама шматлікія прывілеі феадалаў і феадальная анархія ў Рэчы Паспалітай у XVIII ст., а пасля далучэння беларускіх зямель да Расійскай імперыі — канкурэнцыя прамысловасці Расіі і Польшчы, мясцовых вотчынных прадпрыемстваў і падатковая палітыка царызму. Велізарныя страты і разбурэнні нанесла гарадам Беларусі вайна 1812 г.

Гарадская прамысловасць на Беларусі ў першай палове XIX ст. фактычна знаходзілася на стадыі дробнатаварнай рамеснай вытворчасці. Яе прадукцыя не цікавіла буйных памешчыкаў-прадпрымальнікаў. Сялянская гаспадарка пераважна арыентавалася на самазабеспячэнне ўсім неабходным і, за рэдкімі выключэннямі, таксама не з'яўлялася рынкам збыту для гарадской прамысловасці. Усё гэта перадвызначала слабасць эканамічнага патэнцыялу беларускіх гарадоў.

У такіх умовах масавае прымусовае перасяленне яўрэяў з вёсак і памешчыцкіх маёнткаў у гарады і мястэчкі і непасільныя для многіх мяшчан дзяржаўныя падаткі і павіннасці суправаджаліся збядненнем значнай часткі гарадскога насельніцтва. Адзначаныя фактары ўплывалі таксама на тое, што ў першай палове XIX ст. у гарадах Беларусі склалася большасць яўрэйскага насельніцтва. Яна засяродзіла ў сваіх руках гарадскі гандаль і рамяство.

У 1796 г. на Беларусі налічваліся 8844 дробныя прамысловыя прадпрыемствы (галоўным чынам вінакурні і млыны), а таксама 53 мануфактуры. Паводле звестак на 1828 г., колькасць мануфактур тут вырасла да 104, а дробных прадпрыемстваў скарацілася да 6681. Але прадукцыя першых і другіх павялічылася.

У 20-я гады XIX ст. на Беларусі з'явіліся першыя фабрыкі. У 1860 г. іх колькасць вырасла да 30. Па кошту выпрацаванай прадукцыі яны пераўзышлі мануфактуры, якіх тады налічвалася 127. У 1860 г. сфера дробнай прамысловасці скарацілася да 3867 прадпрыемстваў — найперш за кошт памешчыцкіх вінакурняў, рыначныя ўмовы дзейнасці якіх істотна пагоршыліся ў сувязі з увядзеннем акцызнага падатку. Тым не менш, дробная прамысловасць у 1860 г. па ўсіх паказчыках значна пераўзыходзіла фабрычную і мануфактурную вытворчасць, разам узятыя.

Для развіцця прамысловасці Беларусі ў канцы XVIII,— 50-х гадах XIX ст. было характэрна таксама паступовае пашырэнне выкарыстання вольнанаёмнай працы, г. зн. капіталістычных адносін. У 1860 г. 40—45 працэнтаў усіх прадпрыемстваў дзейнічалі на аснове вольнага найму. На іх было занята каля 36 працэнтаў усіх рабочых, яны вырабілі прадукцыі на 4529 тыс. руб.— больш за трэць агульнай сумы вытворчасці.

Крыніцай асноўнай масы сельскагаспадарчай і прамысловай таварнай прадукцыі з'яўлялася памешчыцкая гаспадарка, якая арыентавалася на вывазны гандаль. З Беларусі ў расійскія цэнтры, на Украіну, у Польшчу, Прыбалтыку і краіны Заходняй Еўропы вывозіліся гарэлка, спірт, хлеб, лён, пянька, льняное і канапляное семя, алей, сала, лес і лесаматэрыялы, смала, дзёгаць, сукно, парусіна, канаты і інш. Увозіліся соль, металы, тканіны, фарфоравы і фаянсавы посуд, тытунь, рыба, чай, кава, сельскагаспадарчыя і прамысловыя тэхніка і абсталяванне. Знешні гандаль ажыццяўляўся ў асноўным па рачных сістэмах.

Паступова эпізадычны кірмашовы гандаль пачаў выцясняцца пастаянным — крамна-магазінным. З 1825 па 1860 г. колькасць крам у гарадах Беларусі павялічылася з 1284 да 4737. У Мінску ў 1800—1858 гг. гадавы абарот крамнага гандлю вырас больш як у 8 разоў. Пазней кірмашы ператварыліся ў звычайныя рынкі лакальнага значэння.

У пачатку XIX ст. на Беларусі было 40 гарадоў — павятовых і губернскіх цэнтраў, а таксама «заштатных». Агульная колькасць насельніцтва ў іх тады складала ўсяго 96 тыс. чалавек. Толькі ў Віцебску колькасць жыхароў перавышала 10 тыс. У Мінску іх было 9,6 тыс., Магілёве — 6,2 тыс., Гродне — 5,4 тыс., Полацку — 5,3 тыс., Пінску — 3,6 тыс., Бабруйску — 3,3 тыс., Брэсце — 1,8 тыс. чалавек. Такім чынам, нават найбуйнейшыя гарады па колькасці насельніцтва ў пачатку XIX ст. не дасягалі ўзроўню першай паловы XVII ст. Шпаркі рост гарадскога насельніцтва на Беларусі назіраўся ў 30—50-я гады. У 1861 г. у Магілёве налічвалася 31,1 тыс., Віцебску — 30,7 тыс., Мінску — 26,8 тыс., Брэсце — 20,9 тыс., Гродне — 20,2 тыс., Гомелі — 16,8 тыс., Бабруйску — 15,8 тыс., Полацку — 15 тыс., Пінску — 11,3 тыс. чалавек. Агульная колькасць гарадоў заставалася той жа, што і ў пачатку XIX ст. Незвычайна хуткі рост гарадскога насельніцтва на Беларусі ў 30—50-я гады тлумачыцца пераважна не эканамічнымі, а палітычнымі фактарамі, найперш — прымусовым высяленнем яўрэяў з вёсак і памешчыцкіх маёнткаў у гарады і мястэчкі.

Гарадская прамысловасць на Беларусі ў першай палове XIX ст. была прадстаўлена выключна ручной вытворчасцю ў форме рамяства (майстэрні з колькасцю занятых да 5 чалавек), простай кааперацыі (5—15 рабочых) і адзінкавых мануфактур (больш за 15 рабочых). З-за канкурэнцыі прывазных прамысловых тавараў і прадукцыі шматлікіх мясцовых вотчынных прадпрыемстваў, наяўнасці капіталу ў гарадскіх прадпрымальнікаў яна знаходзілася ў самым незайздросным становішчы.

Па прыблізных падліках, у 30—50-я гады агульная колькасць гарадскіх рамеснікаў на Беларусі павялічылася з 6,4 тыс. да 13,5 тыс. Найбольшая колькасць іх займалася вырабам абутку і адзення, апрацоўкай скур, дрэва і металаў, будаўнічымі і рамонтнымі работамі. Да пачатку 50-х гадоў большасць гарадскіх рамеснікаў уваходзіла ў цэхі, дзейнасць якіх па-ранейшаму рэгулявалася спецыяльнымі статутамі. Цэхавыя рамеснікі, як і ў часы сярэднявечча, дзяліліся на майстроў, чаляднікаў і вучняў. Аднак вельмі часта майстры працавалі без наёмнай рабочай сілы, выкарыстоўваючы дапамогу членаў сваёй сям'і. Справамі цэха кіраваў выбарны цэхмістр. Цэхі падпарадкоўваліся гарадской рамеснай управе.

У невялікіх гарадах і мястэчках, дзе колькасць рамеснікаў была нязначнай, цэхі адсутнічалі. Паступова колькасць няцэхавых рамеснікаў павялічвалася і ў буйных гарадах. Дробныя цэхі ўзаемазвязаных спецыяльнасцей аб'ядноўваліся, у выніку агульная колькасць цэхаў скарачалася. У 1852 г. па ўказу сената цэхавая арганізацыя ў гарадах і мястэчках з невялікай колькасцю рамеснікаў была скасавана. Прадстаўнікі шэрага прафесій і заняткаў (цесляры, вознікі, падзёншчыкі, чорнарабочыя і інш.) вызваляліся ад запісу ў цэхі. Адмянялася манапольнае права цэхаў на вытворчасць пэўнай прадукцыі. Членам цэха дазвалялася наймацца на фабрыкі і заводы.

Колькасць мястэчак на працягу першай паловы XIX ст. вырасла з 290 да 400. Рост быў звязаны з правам дваран-памешчыкаў устанаўліваць у сваіх уладаннях кірмашы і рынкі. У такіх выпадках адпаведныя пасяленні (з дазволу губернатара) пераводзіліся ў разрад мястэчак. Невыпадкова пераважная большасць мястэчак належала памешчыкам. Да іх ліку адносіліся Гомель, Горкі, Прапойск, Шклоў, Мір, Смаргонь, Зэльва, Свіслач і многія іншыя. Некаторыя мястэчкі па колькасці жыхароў і ўзроўні развіцця прамысловасці і гандлю не ўступалі сярэднім гарадам, а часам і пераўзыходзілі іх. У шэрагу мястэчак дзейнічалі вотчынныя прамысловыя прадпрыемствы і буйныя кірмашы. Аднак асноўная маса мястэчак адносілася да невялікіх пасяленняў сельскага тыпу, большасць насельніцтва якіх складалі прыгонныя сяляне.

Гарадское насельніцтва Беларусі ў першай палове XIX ст. падзялялася на характэрныя для феадальнага грамадства саслоўі. Асноўнымі з іх з'яўляліся дваране, духавенства, купцы, мяшчане і сяляне. Як асобныя саслоўныя групы ўлічваліся чыноўнікі, вайскоўцы, «ганаровыя грамадзяне» і інш. Прывілеяванымі саслоўямі ў дваранска-памешчыцкай дзяржаве, якой была Расійская імперыя, з'яўляліся дваране і духавенства, найперш праваслаўнае. Іх інтарэсы ажыццяўляў царскі ўрад, з іх прадстаўнікоў складалася царская бюракратыя. Пэўныя саслоўныя прывілеі мела гільдзейскае купецтва, аднак уплываць на палітыку царызму яно практычна не магло, бо ў Расіі адсутнічалі прадстаўнічыя органы дзяржаўнай улады. У адрозненне ад дваран і духавенства купцы не вызваляліся ад дзяржаўных падаткаў.

Сярод гараджан Беларусі дваране ў канцы XVIII ст. складалі каля 3,3 працэнта. З канца 30-х гадоў у сувязі з «разборам» шляхты іх удзельная вага зменшылася да 1,1 працэнта, але да канца 50-х гадоў зноў вырасла (да 4,6 працэнта). У 30—50-я гады ў гарадах Беларусі ў некалькі разоў павялічылася колькасць чыноўнікаў і вайскоўцаў. Духавенства ў пачатку 60-х гадоў складала каля 1 працэнта, купцы — каля 2 працэнтаў гараджан.

Самай шматлікай катэгорыяй гарадскога насельніцтва з'уляліся мяшчане. У канцы XVIII ст. яны складалі 80 працэнтаў, а ў 50-я гады XIX ст.— 75 працэнтаў. Да мяшчан адносіліся рамеснікі, дробныя гандляры, чорнарабочыя, хатняя прыслуга, людзі, што займаліся возніцтвам, агародніцтвам і г. д. Многія мяшчане жылі за кошт выпадковых заробкаў, з'яўляліся паўжабракамі і жабракамі.

Па меры разлажэння феадальна-прыгонніцкіх адносін і ў выніку пэўных палітычных акцый царызму («разбор» шляхты, канфіскацыя маёнтка за ўдзел у паўстанні 1830—1831 гг., прымусовае ссяленне яўрэяў у гарады і мястэчкі), адбывалася «размыванне» саслоўяў. Павялічвалася колькасць безмаёнткавых дваран, якія вымушаны былі зарабляць сродкі на жыццё рознай службай, рамяством (нават у якасці чаляднікаў і вучняў). Вельмі няўстойлівым было становішча майстроў-рамеснікаў і дробных гандляроў: толькі нямногія з іх павялічвалі свае «капіталы», а большасць траплялі ў разрад людзей, вымушаных шукаць працу па найму.

Падлічана, што ў 30—50-я гады XIX ст. гараджане Беларусі плацілі падаткі і выконвалі да 40 розных відаў павіннасцей. Грашовыя зборы ваганіся ў гарадах ў сярэднім ад 15 да 25 руб. на душу. Яны з'яўляліся непасільнымі для большасці жыхароў. Таму ў гарадах і мястэчках, як і ў запрыгоннай вёсцы, няспынна раслі нядоімкі.

*(Працяг будзе.)*

Тэкст скарочаны; матэрыял да друку падрыхтаваў **Мар'ян ВІЖ.**




*Рубрыку вядзе*

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ**

Рабіндранат Тагор (1861—1941), паэт, празаік і драматург, які пісаў на бенгальскай мове. Зрабіў новую індыйскую літаратуру вядомай у цэлым свеце.

***Рабіндранат ТАГОР***

* * *

Адзін за адным гаснуць на сцэне агні.
Зала — як сон, дзе відзежы ўжо сцерліся.
Пуста і цёмна. Знак падала цішыня
Перстам суровым. Спакой набыла душа,
І ўбор мой, што перад пачаткам спектакля здаваўся
Сутнасцю вобраза, у зале парожняй стаў бессэнсоўны.
Фарбамі, ясвамі, рознаю мішурою
Я ўпрыгожваў сябе, каб дагадзіць натоўпу.
Зараз пасцерлася ўсё,— і я здзівіўся, уражаны
Усёй паўнатою нябачнае існасці голай маёй.
Гэтак абрысы зямлі пры заканчэнні дня
Невыразна зліваюцца ў час адыходу сонца.
І адкрываецца неба, празрыстае неба
У зорным зіхценні, самім сабою здзіўлёнае.

* * *

Няхай лёгка спадае заслона з мае істоты,
Няхай праніклівае святло Розуму
Развее туман
І адкрые шчымліва-жаданыя абрысы ісціны,
Няхай расплывецца ў душы,
У нерухомых сферах мітусні
І з'явіцца мне спакойны, трывожны вобраз вечнасці;
І хай пранікну я зрокам у сэнс майго існавання,
Адрынуўшы
Бессэнсоўныя хітрасплецені жыцця,
Ілжывыя каштоўнасці, што працялі грамадства хлуснёю,
І натоўп карыслівых і прагных,—
Раней, чым я адыду за мяжу існавання.

* * *

Калі цябе я ў сне сваім не бачу,
Здаецца мне: зямля замовы шэпча,
Каб знікнуць пад нагамі назаўсёды.
І за пустое неба учапіцца,
Падняўшы рукі ў жаху, я хачу.
Ад спуду прачынаюся і бачу,
Як, нізка нахіліўшыся, прадзеш ты воўну,
Седзячы са мною побач незварушна,
Сама ўся ціхая — нібы спакой тварэння.

*Пераклад Янкі СІПАКОВА.*

*Чыталі?*



Ніл Гілевіч

Выбар

Пад такой назвай у выдавецтве «Беларусь» (серыя «Плошча Свабоды») выйшаў з друку зборнік публіцыстыкі народнага паэта Беларусі, старшыні ТБМ імя Ф. Скарыны Ніла Гілевіча.

У новай кнізе змешчаны найбольш значныя артыкулы, прамовы, інтэрв'ю трох апошніх гадоў, а таксама тыя з іх, якія ў свой час у друк не трапілі з-за рагатак цэнзуры. Асноўныя тэмы зборніка — лёс беларускай зямлі, адраджэнне гістарычнай памяці нашага народа, яго нацыянальнай самасвядомасці, мовы, культуры. У зборніку — 39 артыкулаў.

Трэба адзначыць надзвычай своечасовае з'яўленне згаданай кнігі, бо, як паказала нядаўняе абмеркаванне праекта Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь у Вярхоўным Савеце, пэўныя сілы яшчэ не пакінулі надзеі адмовіць нашай краіне мець сваю дзяржаўную мову.

В. В.

# «Беларуская народная педагогіка»

Г.Н. Арлова
Беларуская народная педагогіка



«У кнізе, якую мы адрасуем зацікаўленаму чытачу, педагагічныя ідэі і выхаваўчы вопыт беларускай народнай педагогікі раскрываюцца на падставе аналізу помнікаў этнаграфіі і фальклору. Прычым у большасці выпадкаў мы спасылаемся на традыцы, што існавалі напрыканцы XIX — пачатку XX стагоддзя. Гэты перыяд гістарычнага развіцця беларускага народа дае найбольш поўнае і цэльнае ўяўленне пра педагогіку беларусаў. Звязана гэта з тым, што на той час галоўны захавальнік народнай педагагічнай мудрасці — сялянская сям'я, яшчэ была моцная, пад адной страхой жыло некалькі пакаленняў. Сяляне прытрымліваліся патрыярхальнага ўкладу, строга выконвалі народныя традыцыі, кіраваліся запаветамі дзядоў і бацькоў» — так пішацца ў прадмове да кнігі Ганны Арловай «Беларуская народная педагогіка», што выйшла ў выдавецтве «Народная асвета».

Кніга складаецца з трох раздзелаў: «Уводзіны ў народную педагогіку», «Асноўныя ідэі выхавання ў беларускай народнай педагогіцы», «Педагогіка маленства, дзяцінства і юнацтва».

У кнізе педагагічныя ідэі, выхаваўчы вопыт беларускай народнай педагогікі раскрываюцца праз прыказкі, прымаўкі, казкі, песні, загадкі, прыпеўкі, міфалогію, галашэнні, абрадавыя гімны, быліны.

Н. К.

*Тэатры*

# Запрашайце «Жывое слова»!

Студэнцкі тэатр «Жывое слова» існуе з 1966 года. Ён носіць званне народнага, якое сёлета ў чарговы раз пацвердзіў. Доўгі час тэатрам кіраваў Андрэй Андрэевіч Каляда, цяперашні прарэктар Беларускай акадэміі мастацтваў. Зараз тэатр узначальвае Юрась Кучарэнка — малады хлопец з пшанічнымі вусамі. Акцёры тэатра — у асноўным студэнты і тыя, хто нядаўна скончыў Менскі педінстытут.

Барздоўская школа, што ў Аршанскім раёне, радасна вітала гасцей. Спачатку ім паказалі школьны гісторыка-краязнаўчы музей, затым гасцінна запрасілі за абедзенны стол. Дарэчы, гэты музей па праву лічыцца адным з лепшых у раёне. Тут сапраўды ёсць што паглядзець. У зале барздоўскага Дома культуры артысты паказалі ўрывак са спектакля «Сівая легенда» паводле твора Уладзіміра Караткевіча. У гэты ж дзень «Жывое слова» дало яшчэ адно выступленне. Нельга перадаць, якое ўздзеянне мае на аўдыторыю беларускае жывое мастацкае слова. Як неабходна такое слова менавіта цяпер, калі тэлебачанне корміць нас розным эрзацмастацтвам — «марыямі» і «сантабарбарамі», якія неяк непрыкметна змянілі на блакітных экранах жалезабетонны сацрэалізм. У гэтым плане дзейнасць «Жывога слова» проста неацэнная: яны едуць у самую глыбінку, дзе масцітыя прафесіяналы не бываюць ніколі, дзе маладое пакаленне амаль пазбаўлена жывога кантакту з нацыянальным мастацтвам.

На спектаклі ў школе Юрась Кучарэнка не стаў паказваць «Сівую легенду», бо ў зале пераважалі вучні малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту. Ён пабудаваў выступленне студэнтаў на невялікіх жанравых сцэнках, на гумарыстычных эцюдах. Яшчэ большую прывабнасць надавалі праграме песенныя нумары, якія ўдала дапаўнялі ігравыя сцэны. Гэта былі беларускія народныя песні і бардаўскія песні пад акампанемент гітары, у чым асабліва вызначыліся С. Грышанава і А. Гаўрыльчык.

Час праляцеў вокамгненна. І вось ужо артысты разам з гледачамі співаюць прыпеў развітальнай песні. Сціхлі галасы, і зала напаўняецца авацыямі. Агульнае ўражанне ад спектакля выказаў настаўнік Уладзімір Баршчынскі:

— Такія выступленні неабходна рабіць як найчасцей, бо гэта і ёсць найлепшая прапаганда беларускай мовы.

Ужо сцямнела, калі артысты вярнуліся ў Оршу, дзе назаўтра іх чакала выступленне ў адной са школ горада. Міжвольна падумалася пра калектыў: малайцы, проста малайцы! Запрашайце да сябе ў школы і Дамы культуры «Жывое слова», не пашкадуеце!

Ю. КОПЦІК.

г. Орша.

*Мама, пачытай!*

**Міхась СКОБЛА**

**ВЯРБЛЮД**

Клетку абышоў вярблюд,
папляваў у кожны кут
і пажаліўся нам з татам:
— Не хачу я быць гарбатым!

А пасля сказаў вярблюд:
— Я з'ядаю сена — пуд.
Да напояў я не падкі,
я люблю папіць гарбаткі.



**МЯДЗВЕДЗЬ**

Наракаў мядзведзь на лёс:
— Хоць бы мёду хто прынёс.
Вочы ледзь заплюшчу —
бачу нашу пушчу,
яму пад ялінай
і вядро з малінай!





**ЗУБРЫ**

З клеткі вылезлі зубры,
пашчапалі дуб стары,
з'елі ў лузе канюшыну,
з моста скінулі машыну.

Потым, каб віну загладзіць,
пачалі з усімі ладзіць:
і дзяцей каталі ў парку
на сваім магутным карку.



**МАЛПЫ**

Малпы селі на арэлі
і да вечара дурэлі.

Адгуляўшы гулі,
раненька паснулі.

А малая малпачка
патушыла лямпачку
і, звязаўшы ўсе хвасты,
збегла ціхенька ў кусты.

Як прачнуліся ўсе,— ох,
ну ж і быў перапалох!



**ЛАСІ**

Паўцякалі ў лес ласі —
дапамог ім хтосьці.
Хоць крычы, хоць галасі —
не ідуць у госці.

Можа, збіліся з дарогі?
Мо, згубілі ў мосе рогі?

Хоць ты лайся, хоць прасі —
не вяртаюцца ласі.

